Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА

# Газета для вас

12 ліпеня 1997 года
СУБОТА
№ 31
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы – 750 руб.
Цана ў розніцу – 1.000 руб.

● ЧАС МЯСЦОВЫ

## АДНЫМ АБЗАЦАМ

**БЯРОЗА.** Уласны герб афіцыйна з'явіўся ў гэтага райцэнтра. Герб уяўляе сабой шчыт, верхняя частка якога мае прамавугольную форму, ніжняя – закругленую. У цэнтры – бярозавы лісток на фоне ўязных варот Картэзіянскага кляштара, узведзенага больш за чатыры стагоддзі таму. У ніжняй частцы – блакітная стужка, сімвалізуючая рэкі і вадаёмы, на якія багатая Бярозаўшчына. На гербе выбіта дата – 1477-ы, год першага летапіснага упамінання паселішча Бяроза.

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Гута-Міхалін у першую нядзелю ліпеня сабраў удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны Івацэвіцкага, Пружанскага, Бярозаўскага і Слонімскага раёнаў на традыцыйную сустрэчу. Усё цячэ, ды нічога не мяняецца ў сцэнарыі яе правядзення. Як пяць ці дзесяць гадоў таму, усё тыя ж мітынг, пераклічка загінуўшых, ускладанне кветак да помніка, канцэрт самадзейных артыстаў.

**БАРАНАВІЧЫ.** 50-ы выпуск адбыўся ў медыцынскім вучылішчы. За гады свайго існавання навучальная ўстанова падрыхтавала каля 13 тысяч медыцынскіх сясцёр, фельчараў і акушэраў. Напрыканцы чэрвеня атрымалі дыпломы яшчэ каля 200 спецыялістаў сярэдняга медыцынскага звяна.

**(Наш кар.)**

● ФОТАЗНАЁМСТВА З СУЧАСНІКАМ

## Рабочы Рыгор Купрыянчык



*Якімі б разумнымі ні былі аўтаматы, усё роўна іх работу павінен кантраляваць чалавек. Высокакласным спецыялістам у калектыве Целяханскай лыжнай фабрыкі лічыцца Рыгор Мікалаевіч Купрыянчык (на здымку), які ўмела абслугоўвае лінію па вырабу паркету.*

*Фота А.ГАНЧУКА.*

● НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## АД СУБОТЫ ДА СУБОТЫ

### ДАЛУЧЭННЕ ДА БЕРНСКАЙ КАНВЕНЦЫІ

На мінулым тыдні Беларусь нарэшце далучылася да Бернскай канвенцыі аб ахове літаратурных і мастацкіх твораў.

Бернская канвенцыя, заключаная ў 1986 г., вызначае міжнародна-прававы механізм аховы аўтарскіх правоў. Яе ўдзельнікамі з'яўляюцца 125 дзяржаваў, і Беларусь была адзінай еўрапейскай краінай, якая не ўваходзіла ў гэты спіс. На думку спецыялістаў, далучэнне да Канвенцыі дазволіць павысіць узровень аховы інтэлектуальнай уласнасці нацыі і абараніць беларускіх аўтараў у краіне і за мяжой.

### 7 МІЛЬЁНАЎ ДОЛАРАЎ – НА ЗАХАВАННЕ АЗОНАВАГА СЛОЯ

Урад Беларусі падпісаў з Міжнародным банкам рэканструкцыі і развіцця пагадненне аб выдзяленні нашай рэспубліцы гранта на 7 мільёнаў долараў. Гэтыя грошы будуць накіраваны на спыненне выкарыстання ў вытворчасці шкодных хімічных рэчываў, што разбураюць азонавы слой. Такі крок зроблены абодвума бакамі не выпадкова. Мы ніколі не выраблялі ў сябе дома азонаразбуральныя рэчывы, а толькі іх выкарыстоўвалі.

Праект гранта рыхтаваўся айчыннымі і замежнымі спецыялістамі паўтары гады. Згодна з яго апошнім палажэннем, да 2000 года ўсе прадпрыемствы Беларусі павінны забяспечыць чысціню атмасферы ад хімічных выкідаў. Менавіта для рэалізацыі гэтага намеру Сусветны экалагічны фонд, пасрэднікам якога і стаў Міжнародны банк, выдзяліў вядомы беспрацэнтны грант. Столькі ж грошай абавязаўся ўкласці ў справу і беларускі бок.

### У ВІЦЕБСКУ АДКРЫЎСЯ ДОМ-МУЗЕЙ МАРКА ШАГАЛА

6 ліпеня 1997 года, у гонар 110-годдзя з дня нараджэння Марка Шагала, на яго радзіме, у горадзе Віцебску, урачыста адкрыўся дом-музей мастака, у якім ён жыў з 1906 па 1920 год. На ўрачыстасцях пабывалі госці з многіх краін, у тым ліку ўнучка мастака Бэла Меер са Швейцарыі.

### НАРОДНЫЯ ГРОШЫ ІДУЦЬ НА ПАТРЫЁТАЎ

Фінансаванне Беларускага патрыятычнага саюза моладзі ідзе поўным ходам. На ўтрыманне „патрыётаў" з рэспубліканскага бюджэту ўжо выдзелена 5,6 мільярда рублёў, а таксама – аўтамабілі, тэхніка, памяшканні і інш. У цэнтральным апараце БПСМ пакуль што будзе працаваць 50 функцыянераў. Камітэты саюза створаны ва ўсіх абласных і раённых цэнтрах, фінансавацца яны будуць за кошт мясцовых бюджэтаў.

Мала таго, што беларускім падаткаплацельшчыкам прыходзіцца ўтрымліваць раздутыя штаты чыноўнікаў, дык тут яшчэ вешаюць на нашую шыю батальёны пранырлівых пацаноў.

### ДЗЕЦІ ЗАГІНУЛІ ПА ДАРОЗЕ Ў БЕЛЬГІЮ

Страшная трагедыя адбылася на аўтастрадзе Мінск-Брэст каля вёскі Камень Кобрынскага раёна. У выніку ліўневых дажджоў мокры асфальт дарожнага пакрыцця ўяўляў тут павышаную небяспеку для ўдзельнікаў дарожнага руху. Менавіта на гэтым участку ехаў аўтобус з рэчыцкімі школьнікамі, якія накіроўваліся на адпачынак у Бельгію. Падданы Каралеўства Бельгія вадзіцель Золі Вілі не справіўся з кіраваннем аўтобуса „Неаплан", які саслізнуў з палатна дарогі, пралцеў абочыну і ўпаў у кювет.

У салоне знаходзілася 71 дзіця. Чацвёра з іх ва ўзросце ад васьмі да дванаццаці гадоў загінулі на месцы.

Трое дзяцей цяжка паранены. Брыгадамі хуткай дапамогі, якія аператыўна прыбылі да месца аварыі, яны былі дастаўлены ў рэанімацыйныя аддзяленні Кобрынскай ЦРБ і Брэсцкай абласной клінічнай бальніцы. Астатнім дзецям неадкладная дапамога была аказана ў медыцынскіх установах, куды яны дастаўлены з месца аварыі.

**(БелТА–БелаПАН).**

● ВАША ПІСЬМО

## ЧАКАЕМ ПАНЯДЗЕЛКА?

*Члены молодежно-жилищного кооператива № 3 г. Ивацевичи обращаются к вам по следующему делу. МЖК-3 был создан согласно решения Ивацевичского райисполкома в декабре 1996 года для улучшения жилищных условий работников бюджетных организаций. Сразу был навязан проект 50-квартирного жилого дома улучшенной планировки, состоящий из 35 трехкомнатных квартир(общей площадью 95 кв. метров)и 15 двухкомнатных (общей площадью 72 метра). В составе МЖК в основном семьи с одним-двумя детьми, и так как льготный 5% кредит выделяется только в размере 20 кв. метров на одного члена семьи, то приходилось платить большие суммы собственных средств за лишнюю площадь. Сразу изменить проект УКС и райисполком отказывались. У людей не хватало средств на уплату стоимости лишнего метража, люди начали выходить из кооператива. Отдел по управлению г. Ивацевичи не мог предоставить других людей в МЖК, так как все боялись, что придется платить большие суммы денег за лишнюю площадь.*

*Члены кооператива начали обращаться с жалобами в райисполком, облисполком с требованием изменить проект. На общем собрании МЖК 25 марта 1997 года согласно желанию большинства состава МЖК было принято решение изменить действующий проект. В это время был уже заложен полностью нулевой цикл под строительство дома. В апреле проект был откорректирован. На общем собрании принят вариант 60-квартирного жилого дома, где жилая и общая площадь удовлетворяют членов МЖК. Состав на данное время постоянный.*

*Однако время идет, а строительство дома стоит на мёртвой точке. Подвальные помещения сделаны полностью, осталась кладка. На сегодняшний день. на МЖК поступило кредита более 3 миллиардов, внесено людьми 500 миллионов собственных средств. Другие кооперативы, начавшие строиться одновременно с МЖК-3, уже за такую сумму денег имеют по 2-4 этажа построенной коробки, а у нас все на месте. Деньги людей обесцениваются. Закупленные материалы вывозятся на строительство других объектов без ведома и согласия на то кооператива.*

*Складывается такое впечатление, что строительство дома тормозится специально, потому что УКСу нужно закончить другие объекты строительства, где работы уже идут к завершению. А внесенные деньги членов МЖК-3 обесцениваются, ведь стоимость стройматериалов растет, повышается стоимость квадратного метра.*

*Просим помочь МЖК-3 г. Ивацевичи разобраться в этом деле и уточнить: куда и для каких целей идут наши деньги?*

*Н. ШУРУБЕЙКО,*
*Н. СТАСКЕВИЧ,*
*М. ГОРДЕЙЧИК,*
*С. ЮРАСОВА,*
*Н. КОТ,*
*С. МАКАРЕВИЧ и другие,*
*всего 44 подписи.*

*(Копии этого письма посланы авторами в Контрольную палату РБ, в Брестский областной исполком, в Ивацевичский райисполком).*

Ад рэдакцыі. Наш карэспандэнт сустрэўся з П. П. Грушыкам, начальнікам ПМК-12, якая з'яўляецца генеральным падрадчыкам МЖК-3 і павінна будаваць яго дом. Прыводзім іх размову:

**– Пётр Пятровіч, скажыце, чаму да сённяшняга часу не вядзецца будаўніцтва дома МЖК-3 па вуліцы Чарткова ў Івацэвічах?**

– Доўгі час не вялося будаўніцтва таму, што не быў гатовы праект пад кладку сценаў. Потым не было згоды і дазволу буднагляду на від кладкі і ўцяпленне сцен. Цяпер ужо ўсё ёсць. Работу будзем пачынаць з панядзелка (з якога – незразумела! – рэд.) На аб'екце будуць працаваць ПМК АСТ, СПМК-56.

**– Калі мяркуецца заканчэнне кладкі каробкі дома?**

– Будаўніцтва будзе весціся інтэнсіўна. Я так думаю, што да маразоў каробка будзе стаяць, каб вясной можна было закончыць унутраную аддзелку памяшканняў і здаць дом у эксплуатацыю.

**– З будаўнічай пляцоўкі вывозяцца пліты, цэгла. Куды і для чаго – ніхто не ведае. Людзі хвалююцца, што грошы ўносяцца, а справа не рухаецца. Вядома, яны будуць пісаць скаргі ў вышэйшыя інстанцыі.**

– Я разумею хваляванне людзей. Але яшчэ раз запэўніваю: будаўніцтва пачнем, усё пойдзе як трэба. А наконт цэглы і іншых будматэрыялаў, то ўсё гэта вернецца ў той жа калькасці, не прападзе.

Х Х Х

Ужо трэці панядзелак прайшоў з таго моманту, як вялася гэтая размова. Будаўніцтва дома МЖК-3 не распачалося. Што ж, як кажуць, у Бога дзён многа. І панядзелкаў таксама. Які з іх будзе для членаў МЖК-3 шчаслівым?

**А. ШЫЛА.**

● АБІТУРЫЕНТУ – 97

# У ВУЧЫЛІШЧА ПАЙДУ. ХАЙ МЯНЕ НАВУЧАЦЬ

*Закончыўся ў школах навучальны год. Здадзены дзяржаўныя экзамены. Многія з выпускнікоў вызначылі сабе, куды яны будуць паступаць, каб атрымаць прафесію. Нехта марыць стаць педагогам, хтось – медыкам, некаторыя рашылі звязаць свой лёс з працай на зямлі. У адносінах да апошняга хочацца адзначыць, што не трэба далёка ехаць, чагосьці шукаць. У Івацэвічах ёсць прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 162, дзе можна атрымаць сельскагаспадарчую прафесію. Якія правілы прыёму сюды на наступны навучальны год, як вядзецца прафарыентацыйная работа? Пра гэта, пра вучылішча гутарка з наменікам дырэктара па вытворчай рабоце Міхаілам Яўгенавічам ДЫМОВІЧАМ.*

**– Міхаіл Яўгенавіч, якія асаблівасці набору на 1997–1998 навучальны год?**

– Адразу скажу, што наша вучылішча эксперыментальнае. Мы адпрацоўваем сувязь вучылішча-тэхнікум-ВНУ. Набор плануецца павялічыць у параўнанні з мінулагоднім. Адну групу (на базе 9 класаў) мяркуем зрабіць з фізіка-матэматычным ухілам. У яе трапяць мацнейшыя з паступаючых. Іх будзем рыхтаваць для далейшай вучобы ў Беларускім агратэхнічным універсітэце. Пасля заканчэння ПТВ-162 на 4 і 5 выпускнікі па выніках субяседавання залічваюцца ва ўніверсітэт без уступных экзаменаў.

А ўвогуле вучылішча ў наступным навучальным годзе будзе рыхтаваць майстроў сельскагаспадарчай вытворчасці з атрыманнем кваліфікацыі трактарыста-машыніста шырокага профілю, слесара-рамонтніка і вадзіцеля катэгорыі „С". Былыя выпускнікі 9 класаў, якія выбяруць гэтую спецыяльнасць, вучацца тры гады і нароўні са спецыяльнымі дысцыплінамі атрымаюць сярэднюю адукацыю. Такую ж спецыяльнасць можна набыць і за два гады, але не будзе тады сярэдняй адукацыі.

Дзяўчаты ў нас могуць прыдбаць выдатную спецыяльнасць – гаспадыня сядзібы з атрыманнем кваліфікацыі пладаагародніка, повара і швачкі плюс сярэдняя адукацыя. Тэрмін навучання – тры гады.

Тыя, хто закончыў 10 класаў, усяго за 10 месяцаў могуць атрымаць спецыяльнасці майстра сельскагаспадарчай вытворчасці і электрагазазваршчыка.

**– Ці змяніліся ўмовы прыёму? Што патрэбна для паступлення?**

– Не, умовы прыёму засталіся ранейшыя. Паступаючы падае на імя дырэктара заяву, да яе прыкладвае пасведчанне аб нараджэнні, дакумент аб адукацыі, медыцынскую даведку, даведку з месцажыхарства і 6 фотакартак памерам 3x4 см. Дакументы прымаем з 15 чэрвеня да 15 жніўня. Да 25 жніўня вядзем залічэнне ў ПТВ і фарміруем групы.

**– Як вядзецца прафарыентацыйная работа ў вучылішчы?**

– Каб забяспечыць выкананне плана прыёму на наступны навучальны год, у лютым створана прыёмная камісія, якую ўзначальвае дырэктар ПТВ Г. І. Варановіч. Створаны так званыя прафарыентацыйныя зоны, за якімі замацаваны выкладчыкі ці майстры вытворчага навучання. Яны наведваюць школы, расказваюць вучням пра вучылішча і яго спецыяльнасці, прымаюць заявы ад жадаючых. Пад нашай апекай тры раёны – Івацэвіцкі, Бярозаўскі і Пружанскі.

**– Ці атрымліваюць вашы навучэнцы дадатковыя спецыяльнасці, акрамя асноўных?**

– Так, атрымліваюць. Навучэнцы, што займаюцца па спецыяльнасці „Майстар сельскагаспадарчай вытворчасці", дадаткова атрымліваюць яшчэ адну з прафесій электрагазазваршчыка, жывёлавода ці токара. У залежнасці ад выбару.

Акрамя гэтага, у вучылішчы працуюць прафесійныя гурткі, пасля заканчэння якіх навучэнец атрымлівае атэстат з прысваеннем пэўнай кваліфікацыі.

**– Чаму спынены набор на спецыяльнасць „Кінамеханік"?**

– Звязана гэта з тым, што гэтая спецыяльнасць як бы сама па сабе адмерла. Сёлета мы выпускаем апошнюю групу – 23 чалавекі. У іх ёсць дадатковая спецыяльнасць відэааператара, аднак усё роўна цяжкасці з працаўладкаваннем будуць.

**– Міхаіл Яўгенавіч, а ўвогуле, ці ўсе выпускнікі атрымаюць работу?**

– Усе выпускнікі працаўладкоўваюцца ў асноўным па месцы жыхарства бацькоў з-за таго, што многім на момант заканчэння вучылішча няма яшчэ 18 гадоў. Так, з сёлетняга выпуску – а гэта 300 чалавек – у Івацэвіцкім раёне будуць прыняты на работу 206, у Бярозаўскім – 43, у Пружанскім – 32. Дарэчы, у раённых цэнтрах занятасці на нашы спецыяльнасці заўсёды ёсць вакансіі.

**– Ці накіроўваюцца выпускнікі гэтага года на вучобу ў тэхнікумы і ВНУ?**

– Па рашэнню педагагічнага савета 4 выпускнікі атрымалі накіраванне на вучобу ў Беларускі агратэхнічны ўніверсітэт, 10 – у Пружанскі саўгас-тэхнікум, некалькі чалавек прадоўжаць вучобу ў Пінскім індустрыяльна-педагагічным тэхнікуме і Баранавіцкім тэхналагічным.

**– Міхаіл Яўгенавіч, раней у вучылішча бралі, будзем шчырамі, тых, хто ледзь-ледзь закончваў 9 класаў. Ці змянілася сітуацыя цяпер?**

– Сапраўды, раней найгоршых вучняў стараліся адправіць у ПТВ. Цяпер так не атрымліваецца. У верасні мы глядзім за такімі вучнямі: жадае ён вучыцца ці не, як сябе паводзіць. Калі што не так, адпраўляем у школу. Такія выпадкі былі.

**– Як адчувае сябе Івацэвіцкае ПТВ-162 на фоне абласной сістэмы прафтэхадукацыі?**

– Наша вучылішча, скажу без хвальбы, займае адно з лепшых месцаў сярод сельскагаспадарчых ПТВ не толькі вобласці, а і рэспублікі. Аб гэтым сведчаць прызавыя месцы, шматлікія дыпломы. Так, у абласных спаборніцтвах юных электрагазазваршчыкаў нашы прадстаўнікі заваявалі першае месца і абаранялі гонар вобласці на рэспубліканскіх спаборніцтвах. На абласной выставе рацыяналізатарскіх прапаноў выкладчык інфарматыкі Уладзімір Міхайлавіч Васілюк і яго вучні за распрацоўку зараднa-пускавога прыстасавання атрымалі другое месца. Ганаровым дыпломам узнагароджаны таксама лабарант Мікалай Васільевіч Гарапека. Ды ўсяго і не пералічыш.

**– Што чакаецца новага ў ПТВ у хуткім часе?**

– Самае адметнае тое, што вучылішча пачне фарміраваць групы навучэнцаў з ліку дзяўчат для далейшай вучобы на аграномічным факультэце Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута.

**– Дзякуй, Міхаіл Яўгенавіч, за гутарку. Плённай Вам работы, добрых і таленавітых навучэнцаў!**

Інтэрв'ю ўзяў
А. ШЫЛА.

● АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

# БУДЗЕМ СЛАЦЬ ЛІСТЫ ПА-НОВАМУ

*– Рэдакцыя „Газеты для вас"? У мяне ёсць пытанні. Чуў па радыё, што цяпер трэба заадрасоўваць пісьмы інакш, чым раней. Ці праўда гэта? Дзе ўзяць новыя канверты?*

***В. ПЫТЛЯК** (в. Яглевічы).*

З 1 ліпеня ў Беларусі змяніўся парадак падпісання канвертаў.

У правай ніжняй частцы канверта трэба пісаць адрас, каму вы адпраўляеце пісьмо, а ў левай верхняй частцы – свае каардынаты. Адрас патрэбна пісаць таксама ў новым парадку. У першым радку пішацца прозвішча, у другім – нумар дома, кватэры і вуліца, у трэцім – горад, а потым назва краіны. На пісьмах у краіны СНД і далёкага замежжа назва краіны пішацца на беларускай мове, а таксама ў лацінскім варыянце альбо на мове краіны атрымальніка.

Такім чынам, беларуская пошта далучыцца да агульных стандартаў Сусветнага паштовага саюза. У сувязі з тым, што ў наяўнасці застаецца вялікая колькасць канвертаў старога ўзору, тэрмін іх выкарыстання прадоўжаны да 1 лістапада. Аднак такі канверт прыгодны толькі для карэспандэнцыі ў межах Беларусі.

На канвертах пакуль што застанецца звычайны індэкс з шасці лічбаў (плануецца, аднак, перайсці на пяцізначны паштовы код). Канверты атрымаюць розныя стандарты – на палову ліста з вакенцам, з малюнкам і г. д. Да гэтага часу было толькі тры стандарты, цяпер іх будзе значна болей. Спецыяльныя паштовыя канверты будуць выпускаць для калекцыянераў. Акрамя таго некаторая частка канвертаў будзе самаклейкая, а гэта азначае, што не давядзецца выкарыстоўваць язык. Вырабляюць канверты на Барысаўскай папяровай фабрыцы, а таксама іх выпускам займаюцца розныя прыватныя фірмы.

●

Новы парадак напісання адрасу звязаны з тым, што ў свеце пры сартыроўцы пісем выкарыстоўваецца штрыхавое кадзіраванне. Беларускія паштавікі спадзяюцца на дапамогу Сусветнага паштовага саюза, каб перайсці на спрошчаныя сусветныя стандарты апрацоўкі карэспандэнцыі. „Індэкснае" абсталяванне, якім цяпер карыстаецца беларуская пошта, значна састарэла.

Нядаўняе павышэнне тарыфаў на паштовыя адпраўленні не звязана з новым парадкам афармлення канвертаў. Нагадваем, што з 20 чэрвеня пісьмо па нашай краіне каштуе 1.300 рублёў, у СНД, а таксама Літву і Латвію 2.900 рублёў (Авія – 3.300 руб.), у краіны далёкага замежжа, а таксама ў Эстонію і Азербайджан – 4.400 руб. (Авія – 7.500).

● БИБЛИЮ ЧИТАЕМ ВМЕСТЕ

# ПЕРВОЕ ПРИЧАСТИЕ

**(Продолжение. Начало в №№ 3–27).**

Люди по-разному относятся к причастию. Одни думают, что после согрешения надо причаститься, другие, наоборот, воздерживаются от причастия после совершения грехов. Но для чего Христос оставил эту заповедь? Почему это так необходимо, что христиане хранят ее уже две тысячи лет?

Первое причастие проведено Иисусом Христом в Иерусалиме для двенадцати учеников. Вот как об этом говорит один из участников тайной вечери: „И когда они ели, Иисус взял хлеб и, благословив, преломил и, раздавая ученикам, сказал: примите, ядите: сие есть Тело Мое. И, взяв чашу и благодарив, подал им и сказал: „Пейте из нее все, ибо сие есть Кровь Моя Нового Завета, за многих изливаемая во оставление грехов" (Мф. 26:26-28).

Иисус Христос и раньше говорил ученикам о Своем будущем страдании, однако они не понимали Его. Еще Иоанн Креститель, указывая на Иисуса говорит: „Вот Агнец Божий, Который берет (на Себя) грех мира" (Ин. 1:29).

Ученики были хорошо знакомы с традициями своих отцов. Они с радостью вспоминали на Пасху как Бог в далеком прошлом вывел их отцов из земли египетской. Конечно же они неоднократно закалывали пасхального агнца и ели его мясо. Кровь этого агнца была нанесена на косяки дверей дома когда-то в Египте, и она свидетельствовала о заместительной жертве за грех человека. Ангел-губитель не заходил в такой дом, в результате чего в доме все оставались живы и здоровы.

Это было хорошо знакомо ученикам, но со дня явления Иисуса Христа что-то новое начало влагаться в уши учеников. Наконец на тайной вечере Христос предлагает им есть плоть Его и пить кровь Его. Это было выше понимания учеников. Будучи исполнителями закона Божьего, они никогда в жизни не пили крови. Даже кровь чистого пасхального агнца выливалась в подножие жертвенника и им даже и в голову не приходило делать что-то подобное. Но их Учитель говорит: „Пейте, это кровь Моя". Однако пить кровь это грех, это нарушение закона! Да, это так, но этим самым ученики, да и все, кто по настоящий день участвуют в хлебопреломлении, признают, что они виновны в нарушении закона Божьего, виновны в пролитии крови Сына Божиего.

Человек в своей греховности дошел до крайнего предела. Он стал кровожадным. Он стал проливать кровь. Толпа людей, кричавшая „Распни Его", это люди жаждущие пролития крови. Знать древнего Рима, восседавшая в амфитеатрах и с наслаждением смотревшая, как гладиаторы проливают кровь, или как звери терзают людей, это кровожадные люди. Можно сказать это же самое о тех, кто развязывает войны, революции, бунты и т. д.

Из закона Божиего известно, что человек, проливший кровь, должен сам умереть, чтобы и его кровь была пролита. Бог издал этот закон, Бог должен был и выполнить его.

И вот Христос говорит: „Пейте из нее все, ибо сие Кровь Моя Нового Завета, за многих изливаемая во оставление грехов". Итак, причащаясь, ученики признают, что они виноваты в пролитии крови Иисуса Христа. Они своими грехами завели Его на крест. Но Он дал согласие на это. Он идет туда добровольно. Он идет туда, чтобы умереть вместо них, поэтому-то фраза „во оставление грехов", произнесенная им, значит, что Христос прощает грехи. Поэтому, причащаясь, ученики не только признают, что они виноваты в пролитии крови своего Учителя, но и что она пролита во искупление их грехов и что они теперь уже имеют прощение своих грехов.

Правда, тогда они этого еще до конца не понимали. Но потом об этом будут говорить и учить этому своих последователей.

Понимаем ли мы сегодня, что значит для нас причастие? Зачем мы принимаем хлеб и чашу?

Апостол Павел обличает коринфян за то, что они не рассуждая подходили к принятию хлебопреломления. Они просто приходили, ели и пили так, что это совсем не значило то, что должно было значить. Павел подчеркивает: „Ибо всякий раз, когда вы едите хлеб сей и пьете чашу сию, смерть Господню возвещаете, доколе Он придет" (1-е Кор. 11:26). В первую очередь каждый причащающийся должен веровать, что Иисус Христос лично за его грехи был терзаем и мучим и истекал кровью. Принимая хлеб и вино, он должен рассуждать о тяжких муках Искупителя за его грехи и сокрушаться, каяться в своих грехах. Если такой веры, рассуждения и сокрушения во грехах нет, тогда человек принимает хлеб и чашу в осуждение себе. Прежде участия в хлебопреломлении у человека должно произойти истинное покаяние и отвержение греха.

Во вторую очередь, церковь, совершая хлебопреломление, возвещает миру о жертве Иисуса Христа для прощения грехов. Люди должны знать, что у них есть возможность спастись через Христа. И когда Церковь участвует в хлебопреломлении, она являет всему миру спасение, совершенное на Голгофе Иисусом Христом.

Слово „причастие" говорит о том, что человек имеет в чем-то часть или к чему-то причастен, принадлежит. В данном случае христианин заявляет, что он принадлежит к Церкви и является собственностью Христа, потому что он куплен дорогою ценою крови Иисуса Сына Божьего.

Такое причастие установил Сам Бог. Но многие ли так принимают его? К сожалению, нет. Поэтому хочется предупредить тех, которые не имея веры и покаяния в грехах, все же причащаются, что они причащаются себе не во благо, а во вред. Что же делать тогда? Надо открыть Евангелие и, читая его, молиться, чтобы Господь открыл очи и сердца к пониманию того, что там написано. И Бог поможет пойти правильным путем, путем действительного причастия к небесному святому и чистому Царству Господа Иисуса Христа.

**С любовью к вам – священник Ивацевичской Церкви „Рождества Христова" КОНСТАНТИН.**

**(Продолжение следует).**

